**№203 (2016)**

Пятніца , 29 кастрычніка 2004 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Выдавец:
УП «Народная воля»

Кошт свабодны.

*На простор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**E-mail: nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +11...+13, дождж, уначы — +11...+13, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +14...+16, уначы — +10...+12, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +12...+14, уначы — +11...+13, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +7...+9, уначы — +10...+12, на працягу сутак — дождж; у Гомелі ўдзень — +10...+12, уначы — +9...+11, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +9...+11, уначы — +11...+13, на працягу сутак — дождж.

*www.meteo.by*

**ПУЛЬС**

## Першы блок Ігналінскай АЭС будзе зачынены

*Улады Літвы не збіраюцца працягваць тэрмін эксплуатацыі першага энергаблока Ігналінскай АЭС. Пра гэта паведаміла прэс-служба літоўскага прэзідэнта Валдаса Адамкуса.*

З просьбай не спыняць вытворчасць электраэнергіі на першым блоку Ігналінскай АЭС да ўводу ў эксплуатацыю ў Калінінградзе новай цеплавой электрастанцыі да літоўскіх уладаў звярнуліся некалькі месяцаў таму кіраўнікі беларускага канцэрна "Белэнерга", РАТ "ЕЭС Расіі", а таксама кампаній "Eesti Energia" (Эстонія) і "Latvenergo" (Латвія). На думку кіраўнікоў гэтых энергакампаній, закрыццё блока Ігналінскай АЭС да ўводу ў эксплуатацыю новай ЦЭС можа парушыць стабільнасць працы энергасістэм суседніх дзяржаў.

У паведамленні прэс-службы літоўскага прэзідэнта падкрэсліваецца, што Літва абавязана прытрымлівацца ўзятых на сябе пры падпісанні дагавора аб уступленні Літвы ў Еўрасаюз абавязацельстваў аб закрыцці першага энергаблока Ігналінскай АЭС да 1 студзеня 2005 года.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Сёння ў Курапатах адкрываюць памятныя знакі ахвярам сталінізму

*Сёння ў 11.00 ва ўрочышчы Курапаты (Мінскі раён) адбудзецца адкрыццё мемарыяльных знакаў ахвярам палітычных рэпрэсій 30—40-х гадоў XX стагоддзя.*

Як паведаміў член міжнароднага гісторыка-асветнага дабрачыннага праваабарончага таварыства "Мемарыял", вядомы беларускі даследчык тэмы сталінскіх рэпрэсій, кандыдат гістарычных навук Ігар Кузняцоў, з 1991 года ў Расіі і шэрагу краіны СНД штогод на дзяржаўным узроўні 30 кастрычніка адзначаецца Дзень памяці ахвяр палітычных рэпрэсій у памяць падзей 1974 года, калі ў мардоўскіх лагерах палітзняволеныя аб'явілі галадоўку. "Аднак у Беларусі гэты дзень адзначаецца неафіцыйна", — зазначыў вучоны.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Мука ты мая дарагая!

*На 9,5 працэнта выраслі ў Беларусі цэны на харчовыя тавары за 9 месяцаў 2004 года.*

Лідэрамі па падаражэнні сталі пшанічная мука (на 31,7 працэнта), макаронныя вырабы (на 26,6), мяса і птушка (на 18,5). Затым ідуць безалкагольныя напоі (16,3), кандытарскія вырабы (14,3), малако і малочныя прадукты (14,1), каўбасныя вырабы (13,4), хлеб і хлебабулачныя вырабы (12,4), рыба, крупа і бабовыя (на 11,3). Кошт алкагольных напояў павялічыўся на 9,7 працэнта.

Цэны на нехарчовыя тавары ўзраслі на 5,8 працэнта. Найбольш значна падаражэлі друкаваныя выданні, веласіпеды і матацыклы (на 12,8 працэнта), бензін (на 11,5), ювелірныя вырабы (на 11), будматэрыялы (на 10,9).

Тарыфы на паслугі павялічыліся за студзень-верасень на 10,9 працэнта, у тым ліку жыллёва-камунальныя — на 11,5, бытавыя — на 12,6, дзіцячых дашкольных устаноў — на 15, гарадскога пасажырскага транспарту — на 15,9, арганізацый культуры — на 19,9 (з іх паслугі кінатэатраў і відэасалонаў — на 24,2).

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

**АНОНС**

*Станіслаў ШУШКЕВІЧ*

## МОЙ ЛЁС

*Станіслаў Шушкевіч...*

*Чалавек, які пры жыцці ўвайшоў у гісторыю.*

*Чалавек, пра якога можна чуць самыя розныя выказванні.*

*Чалавек, які інтэлігентна слухае ўсіх, але дзейнічае так, як падказвае яго сумленне.*

*Адным словам — чалавек, якому ёсць што сказаць.*

*Значная частка артыкулаў, якія "Народная воля" з сённяшняга нумара прапануе сваім чытачам, была агучана ў эфіры Радыё Свабода. Некаторыя ён дапісаў спецыяльна для нашай газеты.*

*(Чытайце "Мой лёс" Станіслава Шушкевіча на 3—4 стар.)*

**СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ**

# Галоўны рэдактар «Местной газеты» Андрэй Шантаровіч ужо дзесяты дзень трымае галадоўку

*У любы момант да яго гатовыя далучыцца астатнія супрацоўнікі рэдакцыі*




*Гэты здымак рэдактара "Местной газеты" быў зроблены на восьмы дзень галадоўкі.*

**Фота photo.bymedia.net**

### Як усё пачыналася

5 красавіка 2004 года Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь вынесла пісьмовае папярэджанне заснавальніку ваўкавыскай "Местной газеты". Як зазначаецца ў папярэджанні, рэдакцыя парушыла артыкул 11 Закона аб друку, а таксама пастанову Савета міністраў "Аб памерах і парадку збірання рэгістрацыйнага збору за рэгістрацыю сродкаў масавай інфармацыі ў Рэспубліцы Беларусь". Маўляў, адпаведнаму органу не было своечасова паведамлена пра змяненне тэрыторыі распаўсюджвання газеты з рэспубліканскай на рэгіянальную. *"Артыкул 10 Закона аб друку прадугледжвае меркаваную тэрыторыю распаўсюджвання. У выхадных даных газеты так і пазначана: тэрыторыя распаўсюджвання — уся Беларусь",* — гаворыць Шантаровіч. Так што, на думку рэдактара, ніякіх парушэнняў закону няма.

14 кастрычніка Андрэй Шантаровіч атрымаў новае папярэджанне за подпісам міністра інфармацыі Уладзіміра Русакевіча. У дакуменце, у прыватнасці, гаварылася, што рэдактар не зрабіў ніякіх захадаў па ліквідацыі парушэння, з нагоды якога было вынесена першае папярэджанне. Да таго ж міністэрства прад'явіла да газеты наступныя прэтэнзіі: парушэнне арт. 32 Закона аб друку, маўляў, у адной з публікацый былі змешчаны несапраўдныя звесткі, а таксама парушэнне арт. 30 і арт. 26 Закона аб друку: публікацыя рэкламных аб'яў аб дзейнасці, якая патрабуе спецыяльнага дазволу і непазначэнне ў выхадных даных газеты поўнага адраса друкарні.

У той жа дзень, 14 кастрычніка, з Міністэрства інфармацыі даслалі загад аб... прыпыненні выхаду газеты на месяц.

Гэта фармальныя нагоды. Калі капнуць глыбей, то вымалёўваецца цікавая карціна.

### Расплата за смеласць?

Стаміўшыся ад гульні ў адны вароты, Андрэй Шантаровіч аб'яўляе галадоўку.

"Местная газета" даволі актыўна асвятляла палітычныя перыпетыі рэферэндуму і выбараў. Сярод кандыдатаў ад Ваўкавыска на парламенцкае крэсла прэтэндаваў вядомы мясцовы бізнесмен, уладальнік прыватных таксі Мікола Аўтуховіч. Год таму Аўтуховіч праславіўся на ўсю Беларусь тым, што разам са сваімі паплечнікамі трымаў галадоўку ў абарону свайго бізнесу. Нагадаем чытачам, што "Мерседэсы", якія належалі прадпрымальніку, былі арыштаваныя, а на іх гаспадара навешаны вялізны штраф. У рэшце рэшт уладальнік таксі перамог і сітуацыя вырашылася на яго карысць.

*"На старонках газеты мы давалі трыбуну ўсім кандыдатам, і незалежным, і ад улады,* — падкрэслівае Шантаровіч, — *але сімпатыі большасці аўдыторыі і нашыя апытанні сведчылі, што відавочны лідэр у гэтай гонцы — Аўтуховіч. Гэта не наша асабістае меркаванне, а думкі чытачоў, пра што мы і пісалі. Але нягледзячы на гэта, нас пачалі абвінавачваць у прадузятасці".*

Да таго ж ужо трэці год мясцовыя ўлады не даюць дазволу на размяшчэнне рэдакцыі ў Ваўкавыску. Юрыдычны адрас газеты — Смаргонь... *"Ніякіх тлумачэнняў з нагоды таго, чаму я не магу зарэгістраваць рэдакцыю тут, мне не даюць. Маўляў, проста немэтазгодна",* — распавядае рэдактар.

Няміласць улад зразумелая, таму многія адмыслоўцы скептычна ацэньваюць развязку сітуацыі. Шантаровіч вельмі пільна адсочваў перадвыбарную кампанію, фіксаваў усе відавочныя парушэнні заканадаўства. У рэшце рэшт з відэакамерай прыехаў у выбарчую камісію і сказаў: кампанія праходзіць ва ўмовах шматлікіх парушэнняў, і тое, што вы ўсё гэта бачыце і нічога не робіце, — злачынства. Я, як грамадзянін, павінен засцерагчы вас ад саўдзелу ў гэтых злачынствах! З Шантаровіча пасмяяліся...

*"Калі я пачынаў галадоўку, то вылучыў тры патрабаванні: каб разгледзелі мае матэрыялы пра выбары, тыя правапарушэнні, якія я зняў на відэаплёнку. Другое: каб выканкам пасля трохгадовай перапіскі даў мне нарэшце дазвол на размяшчэнне рэдакцыі ў Ваўкавыску. Трэцяе: каб міністэрства адмяніла свой загад.*

*Першае патрабаванне, можна сказаць, выканана. Літаральна ў пятніцу да мяне прыехаў памочнік пракурора Ігнатовіч. Узяў у мяне тлумачэнні, якія менавіта парушэнні я бачыў, калі гэта было, і ўзяў дыск з відэазапісам пра гэтыя парушэнні. У аўторак ён зноў быў тут і прасіў растлумачыць, чаму я галадаю, дзе я гэта раблю, якія вылучаю патрабаванні, як сябе адчуваю і гэтак далей. Папрасіў усе копіі дакументаў пра прыпыненне і папярэджанні з Міністэрства інфармацыі і копіі маіх перапісак з выканкамам. Як я разумею, пракуратура ўсё ж дасць штуршок гэтым справам".*

### «Калі трэба, будзем галадаць усе»

У карпункце газеты ў Ваўкавыску, дзе трымае галадоўку Шантаровіч, нягледзячы на нявыхад газеты, працоўны дзень. Усе супрацоўнікі на месцы. *"Канешне, мы падтрымліваем крок галоўнага рэдактара, яго рашэнне сапраўды мужнае і заслугоўвае павагі. Але разам з тым мы сур'ёзна заклапочаны станам яго здароўя,* — трывожна заўважаюць калегі Шантаровіча. — *У любы момант мы гатовыя далучыцца да Андрэя".*

*"Я ледзь-ледзь стрымліваю намеры супрацоўнікаў галадаць. Ледзь-ледзь. Даводзіцца выкарыстоўваць рашучыя захады ў гэтым сэнсе. Сітуацыя накалілася да бязмежжа",* — кажа рэдактар.

У рэдакцыі ўвесь час не змаўкаюць тэлефоны. Усхваляваныя чытачы выказваюць салідарнасць з калектывам, прапануюць дапамогу. *"У мяне вялікая адказнасць перад падпісчыкамі, чытачамі і рэкламадаўцамі. І я, паверце, не магу растлумачыць ім, чаму газета больш не выходзіць. Ніхто з іх, чытаючы загад міністэрства, не разумее, з-за чаго так паступілі з газетай. Падпісчыкі кажуць чыноўнікам: у крайнім выпадку аштрафуйце ці прыцягніце да адказнасці рэдактара, але не карайце нас, чытачоў",* — тлумачыць сітуацыю галадоўшчык.

У аўторак да Шантаровіча ў першы раз заехалі медыкі. Настойліва прасілі не адмаўляцца ад ежы...

Што паказальна: у Ваўкавыску ўжо некалькі дзён таму аб'явіў галадоўку назіральнік аднаго з грамадскіх аб'яднанняў. *"Спадар Аксаміт лічыць, што рэферэндум і выбары прайшлі пры поўным беззаконні, і патрабуе перагляду вынікаў гэтага цынічнага палітспектакля",* — распавялі тутэйшыя жыхары.

Аўтуховіч, Шантаровіч, Аксаміт... Нешта не тое, мабыць, у гэтай краіне, калі адзін за адным пачынаюць галадаць прадпрымальнік, журналіст, грамадскі дзеяч...

### Прэса пад націскам?

Паводле слоў Шантаровіча, ужо на працягу амаль што трох гадоў на газету ідзе страшэнны ціск — рэдакцыі адмаўляюць у ліцэнзіі, не даюць магчымасці распаўсюджвальнікам прадаваць газету, зачыняюць крамы, у якіх яна прадаецца. *"Трэці год я не магу ўзгадніць размяшчэнне рэдакцыі ў Ваўкавыску. Трэці год мяне спрабуюць выціснуць з гэтага горада. Зараз улады зрабілі самае страшнае: закрылі газету. Больш за 14 тысяч чалавек пазбавіліся інфармацыі.*

*Калі мы вялі гутарку ў Міністэрстве інфармацыі, спадар Гурэцкі сказаў адкрытым тэкстам: мы закрываем вас з-за таго, што на вас прыйшло вельмі шмат скаргаў з выканкама. Так што думаю, што ўсё гэта ініцыявалі мясцовыя ўлады. Да таго ж чыноўнікі параілі мне напісаць пакаянны ліст... На імя каго і ў чым каяцца, не сказалі..."* — сумна жартуе калега.

Мясцовыя ўлады кантактаў з прэсай пазбягаюць. То яны занятыя на семінарах, то на выканкамаўскіх пасяджэннях... Некалькі гадзін мы, журналісты незалежных СМІ, беспаспяхова "гулялі" па ваўкавыскім выканкаме з надзеяй атрымаць афіцыйны каментар, але дзіўным чынам у гэты час на месцы нікога не было: чыноўнікі "былі на выездзе", "у адпачынках" і г.д.

*"Вы ведаеце пра сітуацыю з "Местной газетой"?"* — пытаюся ў моладзі, што праходзіць каля рэдакцыі. *"Ведаем. Вельмі шкада,* — ківаюць праходжыя на дзверы, дзе вісіць фотаздымак і зварот галоўнага рэдактара. — *Газета не ўпісваецца ў "ідэалагічны фармат", улады ведаюць, што ім за іх дзеянні нічога не будзе. Вось і паводзяць сябе так разбэшчана".*

*"Гэта першы выпадак, калі, адстойваючы прафесійныя журналісцкія правы, галоўны рэдактар вымушаны аб'яўляць галадоўку,* — кажа намеснік старшыні ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" **Тацццяна МЕЛЬНІЧУК**. — *Прыкра, што чалавек з вышэйшай адукацыяй, чалавек духоўна і інтэлектуальна багаты павінен ісці на крайнія захады, таму што ўсе іншыя спосабы ўжо вычарпаныя.*

*Па-чалавечы мне страшна за Андрэя: галадоўка — моцны ўдар па арганізме. Што ж гэта такое адбываецца, чаму ўлада вымушае нас так рызыкаваць жыццём, здароўем, будучыняй сваіх дзяцей, сваім лёсам?..*

*Здзіўляе пазіцыя афіцыйных журналісцкіх саюзаў. У "раёнцы" "Наш час" не было ніводнага паведамлення пра тое, што адбываецца вакол "Местной газеты", у Саюзе журналістаў я не знайшла не тое што спачування і салідарнасці, а проста разумення сітуацыі. Такое ўражанне, што нас, журналістаў, падзялілі, як выказаўся аднойчы Аляксандр Рыгоравіч, на "чэсных" і "нячэсных"..."*

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

*Ваўкавыск—Мінск.*

**СВАБОДА СЛОВА**

## ПРЭСінг

***У Беларусі працягваюцца наступствы на недзяржаўныя выданні***

Днямі цэнтральныя мінскія кнігарні аб'яднання "Белкніга" адмовіліся прадаваць беларускамоўны часопіс "Arche". З продажу знялі ўсе папярэднія нумары часопіса. На думку галоўнага рэдактара выдання **Валеркі Булгакава**, "лёгкія рэпрэсіі" пачаліся пасля таго, як выйшаў апошні выпуск "Arche", прымеркаваны да 10-годдзя кіравання Лукашэнкі.

*"У Мінску, між іншым, прадаецца больш паловы наклада,* — гаворыць Валерка Булгакаў. — *Беларускамоўную літаратуру бяруць фактычна толькі дзяржаўныя кнігарні, прыватнікі адмаўляюцца, бо лічаць гэта камерцыйна нецікавым. А дзяржаўныя кнігарні падпарадкоўваюцца "Белкнізе", якая, у сваю чаргу, з'яўляецца структурным падраздзяленнем Міністэрства інфармацыі. Атрымліваецца нейкае замкнутае кола.*

*Калі гэты махавік запрацуе, то мы можам увогуле спыніць выданне, бо не будзе магчымасцяў рабіць часопіс.*

*Летась нас выкінулі з "Акадэмкнігі" і патлумачылі гэта тым, што быццам "Arche" кепска прадаецца".*

Дарэчы, "Arche" існуе на масмедыйнай прасторы Беларусі больш за 5 гадоў. Праект гэты, безумоўна, прагрэсіўны, смелы, цікавы. Крытыкі назвалі яго амаль беззаганным і ў мастацкім, і ў ідэалагічным сэнсе. Самі выдаўцы ахарактарызавалі "Arche" як першы часопіс XXI стагоддзя.

У выдання свая аўдыторыя чытачоў. У асноўным гэта людзі ва ўзросце 25—40 гадоў, якія далучаюцца да таго кола грамадства, якое прынята называць інтэлектуальнай элітай.

Амаль кожны нумар часопіса мае канкрэтную тэму. І часцей за ўсё фармальна яна не тычыцца палітыкі. Так, перадапошні выпуск "Arche" быў цалкам апалітычны, прысвечаны Полацку. Ён складаўся з эсэ і твораў мастацкай літаратуры. Але яго таксама знялі з продажу.

Калі нас пазбавяць магчымасці чытаць "Arche", мы страцім не чарговую друкаванку, аб якую можна "пачасаць вочы". Знікне крыніца арыгінальных, не падобных на агульнапрынятыя, поглядаў на свет, асобу, генератар духоўных і душэўных рухаў... Але Валерка Булгакаў не губляе аптымізму.

*"Галоўнае, што выпуск часопіса не забаронены. І ў Мінску ён папранейшаму прадаецца ў кіёсках "Белсаюздруку","* — кажа ён.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

## Приносим извинения Андрею Суздальцеву и читателям

К сожалению, во вчерашнем номере "Народной воли" по вине редакционных служб неправильно указано имя автора статьи "Похороненный референдум". Известно, что кандидата исторических наук, эксперта аналитического проекта "Наше мнение" Суздальцева зовут АНДРЕЙ.

**Редакция газеты "Народная воля".**

**ГРОМКОЕ ДЕЛО**

# Мариничу стало плохо от известия, что он еще месяц будет сидеть в СИЗО КГБ

"Как известно, Михаил Маринич уже больше пяти месяцев находится в следственном изоляторе КГБ, — говорит адвокат политика **Вера Стремковская.** — Все следственные действия по предъявленному ему обвинению выполнены, допрошено более 40 свидетелей, проведено 8 экспертиз. Следственные действия с самим Михаилом Афанасьевичем не проводятся. Поэтому ставился вопрос об изменении ему меры пресечения и прекращении уголовного преследования. Очередное решение по этому вопросу должно было быть принято 26 октября. До шести часов вечера мы вместе с другим адвокатом дежурили в КГБ в ожидании решения. Однако информации никакой не было. Она появилась лишь около 11 часов вечера. Начальник следственной группы объявил, что срок следствия и срок содержания Маринича в СИЗО продлен еще на месяц.



В соответствующем постановлении написано, что теперь у следствия есть основания полагать, будто Маринич похитил печать у организации "Деловая инициатива", поскольку Министерство юстиции признало его нелегитимным председателем этого общественного объединения. И поэтому следствию надо еще время на расследование.

На мой взгляд, это является явным нарушением уголовно-процессуального законодательства: по факту хищения печати уголовное дело не возбуждалось. Более того, по словам начальника следственной группы, не имеется и постановления о возбуждении уголовного дела. А продлевать срок содержания под стражей и расследование по уголовному делу, не имея возбужденного дела, невозможно. К тому же не в компетенции Минюста признавать Маринича легитимным или не легитимным председателем организации "Деловая инициатива". Для этого у нас существуют суды. Как можно делать выводы без решения суда, должен был Маринич сдавать печать или нет? Все это наводит на мысль, что повод, по которому Маринича оставили в СИЗО еще на месяц, был найден буквально в последнюю минуту.

Михаилу Мариничу 64 года. Состояние его здоровья вызывает серьезные опасения. У меня есть заключение медиков от 20 октября, где написано, что у него обострился ряд серьезных заболеваний и что он нуждается в лечении в условиях стационара. Однако при этом, правда, сделан вывод, что Маринич может содержаться в условиях СИЗО".

А условия в СИЗО, по словам адвоката, просто ужасные. В маленькой камере, размером около пяти квадратных метров, вместе с Мариничем сидят еще трое. Все они курят. Вентиляции в камере нет — только маленькое окно.

"Он все время находится в дыму, а у него ведь больное сердце, — говорит Вера Валентиновна. — В камере постоянно горит свет. И днем, и ночью. Согласитесь, это очень непростые условия для человека с подорванным здоровьем".

Когда Мариничу объявили о продлении срока содержания еще на месяц, ему стало плохо.

"Всю ночь в следственном изоляторе дежурил врач, — говорит Стремковская. — У Михаила Афанасьевича резко повысилось давление, болела голова. Да и сейчас он выглядит не самым лучшим образом..."

Вера Стремковская уже обжаловала действия следствия в прокуратуре.

На недавней встрече с журналистами председатель КГБ Беларуси **Леонид Ерин** заявил, что задержание Маринича не связано с политикой.

*"Следствие располагает данными о том, что Маринич присвоил себе значительные материальные средства,* — сказал Ерин. — *Не согласовывая, не обсуждая этих вопросов со своими компаньонами. И его компаньоны, его ассоциации, они это признают сегодня. И Маринич будет нести уголовную ответственность не за политическую деятельность, а за уголовную".*

Какая-то абракадабра. Шеф КГБ публично заявил, что *"Маринич будет нести уголовную ответственность не за политическую деятельность, а за уголовную".* Продлевают же ему срок содержания в СИЗО из-за какой-то печати общественной организации. Неужели это уровень Комитета ***государственной безопасности***?

В Интернете со ссылкой на Ерина также появились сообщения о том, что в ближайшее время на Белорусском телевидении появится фильм про Михаила Маринича. Снимает его небезызвестный режиссер *Юрий Азаренок,* он же начальник пресс-службы прокуратуры. "Народная воля" обратилась за комментарием к режиссеру.

*"Я слышал о том, что КГБ предоставит мне материалы для фильма. Но в настоящее время ничего про Маринича не снимаю",* — сказал Азаренок.

**Марина КОКТЫШ.**

**ПРИНЦИПИАЛЬНЫЙ ВОПРОС**

# Прокурор ослеп?

Уважаемая редакция!

Мы понимаем, что в нашей стране отстоять свои права, отстоять правду не так просто. Но и молчать нельзя. Считаем своим долгом через газету донести до широкой общественности то, как в Жодино прокуратура формально подходит к рассмотрению жалоб, связанных с грубейшими нарушениями законодательства во время недавних выборов в Палату представителей и референдума. Вот ответ прокурора города, советника юстиции В.Литвиненко:

*"Волчанину А.В.,*
*Первойкиной И.Ф.*
*Бабкову Б.В.,*
*Савич С.И.,*
*Анкудович А.С.,*
*Виноградову А.М.,*
*гор.Жодино,*
*ул.Ленина, 13-3-49*

*Прокуратурой гор.Жодино рассмотрена Ваша жалоба на действия председателя и заместителя председателя избирательного округа №15 (Рокоссовский) в гор.Жодино при подсчете голосов избирателей 17.10.2004 года после проведения республиканского референдума и выборов депутатов Национального собрания Республики Беларусь.*

*В ходе проверки доводы, изложенные в Вашей жалобе, не нашли своего подтверждения. В действиях указанных лиц не установлено нарушения стст. 13, 55 Избирательного кодекса Республики Беларусь.*

*Таким образом, оснований для применения мер прокурорского реагирования по Вашей жалобе не имеется.*

*Данное решение может быть обжаловано прокурору Минской области.*

*Прокурор города Жодино*
*советник юстиции*
*В.Д.Литвиненко".*

Мы прокомментируем этот бюрократический документ чуть ниже, а пока, уважаемые читатели, ознакомьтесь, пожалуйста, с содержанием нашей жалобы в Центризбирком, прокуратуру, на которую ожидали не отписки, а действенного реагирования. Вот что мы сообщаем:

*"Мы, нижеподписавшиеся, доводим до вашего сведения, что 17 октября 2004 г., во время подсчета результатов голосования на избирательном округе №15 (Рокоссовский), имели место нарушения Избирательного кодекса Республики Беларусь, а именно:*

*1.Наблюдателям под угрозой удаления из помещения участка для голосования было запрещено подходить к столам, на которых производился подсчет голосов, ближе чем на 5 метров.*

*2.После 20.00 на участке для голосования находились посторонние лица, о чем было сделано замечание председателю комиссии (Танкевичу В.К.), на которое он не отреагировал.*

*3.Вскрытие ящиков для голосования стало производиться без предварительного погашения неиспользованных бюллетеней. Погашение неиспользованных бюллетеней производилось уже во время подсчета итогов голосования. Неиспользованные бюллетени были сложены в пакеты и опечатаны участковой комиссией после того, как были сложены в пакеты и опечатаны бюллетени, извлеченные из урн для голосования. Здесь усматриваем нарушение ст. 55 Избирательного кодекса РБ.*

*4.В ходе подсчета голосов секретарь участковой избирательной комиссии Боровик отсортировала в отдельную стопку бюллетени с голосом "за", после чего количество бюллетеней в этой стопке пересчитывала другой член комиссии и в ней оказалось 30 — с голосом "за" и 10 — с голосом "против всех". На вопрос наблюдателя Волчанина А.В., какого типа бюллетени это были (по выборам депутата местного городского Совета депутатов или депутатов парламента, и какого депутата именно), председатель комиссии в резкой форме попросил вышеуказанного наблюдателя не мешать работать ("Не мешай работать, Васильевич!"). В этом случае усматриваем нарушение стст.13, 55 Избирательного кодекса РБ.*

*5.После окончания подсчета голосов, упаковки в пакеты и опечатывания бюллетеней наблюдатели не смогли:*

*— получить полную информацию о результатах подсчета голосов;*

*— ознакомиться с протоколами участковой комиссии о результатах выборов и референдума;*

*— изготовить копию протокола участковой комиссии о результатах голосования своими силами и средствами (у наблюдателей был в наличии фотоаппарат и мобильный телефон со встроеной цифровой фотокамерой).*

*Считаем, что вышеуказанные нарушения избирательного законодательства ставят под сомнение результаты выборов на Рокоссовском избирательном округе №15".*

Что тут, скажите, не ясно? Неужели прокурору В.Литвиненко не понятно, что вскрытие ящиков для голосования должно производиться только после погашения неиспользованных бюллетеней? Трудно установить, по чьей указке нарушался закон? Проведите расследование, допросы — и виновник будет известен. Известна и мера наказания — она прописана в соответствующем кодексе. Но у В.Литвиненко, судя по всему, другая задача. Тогда, получается, он сам становится нарушителем закона.

Нет, что ни говорите, товарищи прокуроры, а шила в мешке не утаишь. На Рокоссовском избирательном округе №15 во время подсчета результатов голосования действительно имели место нарушения Избирательного кодекса. Нужно быть слепым на оба глаза, чтобы этого не видеть...

**Наблюдатели:**
**А.ВИНОГРАДОВ,**
**А.АНКУДОВИЧ,**
**Б.БАБКОВ,**
**С.САВИЧ,**
**И. ПЕРВОЙКИНА.**
**А.ВОЛЧАНИН.**

ЖЕНСКИЙ ВЗГЛЯД

# Рожать или не рожать?



Дети в семье должны быть. И лучше, когда их много. Но в наше время многие женщины останавливаются на одном ребенке и больше рожать не хотят. Чтобы отважиться на вторую беременность, необходимо не только желание, но и возможности. Их, как правило, всегда не хватает...

Во-первых, женщина знает, что ее ждет при родах. Воспоминания о родовых муках и боли не сразу стираются из памяти.

Во-вторых, автоматически на женщину кладется двойная нагрузка ухода за детьми: старший ребенок тоже требует к себе внимания, дети болеют, с маленьким обязательно каждый день надо бывать на воздухе, еще надо готовить на всю семью и следить за квартирой. Хорошо, если муж внимательный и заботливый или есть помощь от мамы или свекрови, а если нет? Женщина будет разрываться между всеми делами и заботами, забывая о себе.

В третьих, бюджет семьи значительно уменьшается. Ежемесячное пособие на ребенка маленькое, сейчас это 80 тысяч, а у неработающих женщин и студенток вообще смехотворное — около 40 тысяч. Да и не понятно, почему вообще существует эта разница в пособиях, ведь малышам одинаково нужны те же памперсы, те же соки. В любом случае приходится в чем-то себе отказывать и экономить. Ведь главное — это питание для ребенка. Как известно, соки и фруктовое пюре стоят сегодня совсем не дешево.

Питание же белорусского производства (относительно недорогое) производят только с сахаром, что многим деткам, склонным к аллергии (а таких сейчас очень много) не подходит, ведь в питании деток до года не должно быть ни соли, ни сахара. Вот и приходится раскошеливаться на импортные пюре и соки.

Отдельный вопрос про лекарства для детей до 3-х лет. Бесплатные они практически только на бумаге. Выписываются те, которыми лечили и 20 лет назад, которые есть в специальном перечне. Лекарства современные, с меньшими побочными эффектами, мамы покупают за свои деньги.

Когда малышу исполняется 6—8 месяцев, ему необходим творожок и кефир. Вам повезло, если в вашем городе есть детская молочная кухня. В городе Орша молочная кухня работала более 25 лет и теперь ее закрыли. Официальная версия — нерентабельность, убыточность предприятия. Хотя применительно к маленьким деткам разве можно *так* ставить вопрос?! Сначала весь сыр-бор разгорелся из-за стерилизатора, который выработал свой ресурс. Власти города и медицинские чиновники не могут найти всего 5 миллионов рублей на новый стерилизатор, а ведь в масштабах города это совсем небольшая сумма. На молочной кухне получали детское питание бесплатно малообеспеченные семьи; так где же забота государства о молодом поколении? Бездушные дяди в высоких кабинетах равнодушны к мольбам и просьбам родителей.

И еще одна ремарка. На мой взгляд, бедность и невозможность мужчин зарабатывать на нормальную жизнь — основные причины, по которым спиваются многие белорусские мужчины. Все завязано на денежном вопросе, на отсутствии перспектив. Мужики сникают, ломаются, хмельное болото засасывает, и им уже не до жен и детей.

После всего вышеперечисленного вопрос о том, почему не рожают женщины в Беларуси, отпадает сам собой. Конечно, не все так плохо.

В нашем городском роддоме мамы лежат вместе с детками. Совместное пребывание новорожденного малыша с самым родным для него человеком, его мамой, невозможно переоценить. Так и должно быть.

При детской поликлинике есть Школа материнства, где учат уходу на новорожденными и убеждают молодых мам в том, что надо кормить деток исключительно грудью. Раньше ничего этого не было. Низкий поклон врачам, акушеркам, медсестрам Оршанского роддома, женской консультации № 1, детской поликлиники за их такой нужный людям благородный труд. Хочется, чтобы за свою работу люди в белых халатах получали достойную зарплату, чтобы при встречах со своими пациентами они только улыбались.

А еще хочется, чтобы детки были здоровы, чтобы каждый день ели фрукты и пили соки; чтобы у мам хватало денег не только на еду, но и на развивающие игрушки; чтобы рядом всегда был сильный, добрый и трезвый папа; и чтобы, наконец, не закрывались детские молочные кухни, а женщины рожали и все были счастливы.

**Татьяна БАРКОВСКАЯ,**
**мама двоих детей,**
*Орша.*

**P.S.** *Прошу считать мое письмо официальным обращением родителей грудных детей в органы Министерства здравоохранения с просьбой помочь в решении вопроса по дальнейшей работе детской молочной кухни. Понимания у местных органов власти мы не нашли.*

ПУЛЬС

## Кардыёлагі ўздыхнуць з палёгкай

У Гомелі плануецца стварыць сумеснае прадпрыемства па вытворчасці кардыёстымулятараў і іншага медыцынскага абсталявання. Нядаўна адбылося падпісанне трохбаковага пратакола аб намерах паміж універсітэтам, беларуска-расійскім прадпрыемствам "Карал", прадпрыемствам "Электронік" і карпарацыяй Pactronoc Corporation (Чыкага, ЗША) аб стварэнні сумеснага аб'яднання па вытворчасці кардыёстымулятараў і іншай медыцынскай тэхнікі на базе ТАА "Карал".

Амерыканская карпарацыя бярэ на сябе абавязкі па тэхналогіі выпуску кардыёстымулятараў, пастаўцы дэталяў і запчастак, дапамозе ў стэрылізацыі і ўпакоўцы прадукцыі.

Каментуючы інфармацыю аб магчымым адкрыцці вытворчасці кардыёстымулятараў, галоўны ўрач Гомельскага кардыялагічнага дыспансера Ганна Лапаціна заявіла, што, "калі ў Гомелі ўдасца стварыць вытворчасць на высокім якасным узроўні і па больш даступнай цане, усе кардыёлагі Беларусі ўздыхнуць з палёгкай, бо неаднаразова здараліся перабоі з пастаўкамі гэтага абсталявання".

**Алена ПАСКАННАЯ.**

## 4—7 лістапада ў Латвіі пройдуць Дні беларускай эканомікі

У рамках мерапрыемства ў Міжнародным выставачным комплексе ў Рызе будуць арганізаваны V Нацыянальная выстава і канферэнцыя "БеларусьЭКСПА". У склад аргкамітэта па правядзенні выставы і канферэнцыі, які ўзначальвае віцэ-прэм'ер Беларусі Андрэй Кабякоў, увайшлі прадстаўнікі міністэрстваў замежных спраў, гандлю, Мінгарвыканкама, іншых органаў дзяржкіравання, а таксама ЗАТ "Тэхніка і камунікацыі".

На выставе "БеларусьЭКСПА-2004" будзе прадэманстраваная прадукцыя больш чым 110 беларускіх прадпрыемстваў і арганізацый, а таксама іх латвійскіх партнёраў.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Не губляюць сілу званы Сафіі

У наступную нядзелю, 31 кастрычніка, у Сафійскім саборы Полацка пачнецца IX Міжнародны фестываль арганнай музыкі "Званы Сафіі". Першым на гэтым традыцыйным і прэстыжным святе высокай музыкі выступіць літоўскі арганіст Аляксандр Ісакаў, які ўпершыню бярэ ўдзел у фестывалі.

Запамінальным абяцае стаць сольны канцэрт ужо добра знаёмага ў Полацку германскага арганіста Маціяса Якаба, які выступіць у саборы 14 лістапада. А праз тыдзень перад палачанамі будзе граць іх зямлячка, салістка канцэртнай залы "Сафійскі сабор" Ксенія Пагарэлая ў сугуччы са слыннымі башкірскімі артыстамі Вахітам Хызыравым (тэнар) і Уладзімірам Самойлавым (альт).

Закончыцца фестываль у апошнюю нядзелю лістапада выступленнем вядомага арганіста з Украіны Уладзіміра Кашубы.

Усе канцэрты дзеля зручнасці публікі, пачынаюцца а 15-й гадзіне і праводзяцца ў выхадныя дні, каб аматары класічнай музыкі з розных куткоў Беларусі маглі без праблем прыязджаць у Полацк і тым жа днём вяртацца з яго.

Загадчыца канцэртнага аддзела Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка Лілія Емяльянава зазначае, што білеты коштам 5 тысяч рублёў даступныя кожнаму, хто жадае свята для душы.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Праз пяць гадоў Мінску патопы не будуць пагражаць?

Мінскі гарвыканкам зацвердзіў праграму развіцця ліўневых калектараў у Мінску, якая ставіць за мэту ў найбліжэйшыя пяць гадоў зняць праблему магчымага падтаплення горада ліўнямі вялікай інтэнсіўнасці. Пра гэта паведаміў генеральны дырэктар унітарнага прадпрыемства "Гаррамаўтадар Мінгарвыканкама" Леанід Стухальскі.

Паводле яго слоў, агульная даўжыня мінскіх калектараў складае 1,2 тысячы кіламетраў і практычна ўсе яны былі пабудаваны ў 1965—1985 гадах. За апошнія 20 гадоў тэрыторыя горада павялічылася на 13,5 працэнта, прыток вады ў калектары таксама ўзрос, і іх прапускная здольнасць перастала задавальняць патрэбы сталіцы. Вырашыць жа праблему падтаплення без будаўніцтва цэнтральнага калектара, паводле слоў Стухальскага, немагчыма.

З гэтай прычыны Гаррамаўтадар прапаноўвае пабудаваць калектар дыяметрам 2,40 метра, які будзе пракладзены на глыбіні 22 метры пад зямлёй ад пасёлка Лябяжы па ўсёй цэнтральнай частцы Мінска з выхадам у мікрараёне Лошыца, працягласць калектара складзе 11,4 кіламетра.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Вось дык «Мундус»!

Выпускнікі беларускіх ВНУ займелі магчымасць атрымліваць адукацыю ў еўрапейскіх універсітэтах, беручы ўдзел у праграме Еўрапейскага саюза "Эразмус Мундус".

Як паведамілі ў прэс-службе прадстаўніцтва Еўракамісіі ў Беларусі, у рамках абвешчанай сёлета адукацыйнай праграмы "Эразмус Мундус" адабраны першыя праекты вучобы на атрыманне ступені магістра ў еўрапейскіх універсітэтах. Для ўдзелу ў іх разам са студэнтамі з іншых краін цяпер запрашаюцца і беларускія студэнты, якія атрымалі першы дыплом аб вышэйшай адукацыі. Выпускнікі, якія ўжо маюць ступень магістра, таксама могуць браць удзел у некаторых праграмах, калі гэта дапускаецца іх правіламі.

Праграмы ахопліваюць 19 дысцыплін, уключаючы сродкі масавай інфармацыі, права, эканоміку, вышэйшую адукацыю, інфарматыку, кіраванне воднымі рэсурсамі, матэрыялазнаўства, машынабудаванне і іншыя. З поўным спісам праграм і іх апісаннем можна азнаёміцца па наступным веб-адрасе: **http://www.europa.eu.int/comm/education/programmes/mundus/projects_en.html.**

**Марына РАХЛЕЙ.**

АЛЬТЕРНАТИВНОЕ МНЕНИЕ

# Огонь, вода и «золотые» трубы...

*О том, что экономика должна быть экономной, знают все. Однако на практике нередко возникают ситуации, когда из-за непродуманных решений чиновников происходит не только разбазаривание бюджетных средств, но и обострение экологических проблем.*

Весной текущего года был объявлен тендер на поставку напорных труб и запорно-регулирующей арматуры для перекладки канализационного коллектора КНС-2 до очистных сооружений РУП ПО "Полимир" в Новополоцке. Замена труб была вызвана длительным периодом эксплуатации, в результате чего напорные водоводы частично оказались в неудовлетворительном состоянии.

На заседании тендерной комиссии Новополоцкого городского исполнительного комитета 9 апреля 2004 года окончательного вердикта вынесено не было и лишь спустя двадцать дней претендентов (всего их было восемь) поставили в известность, что предпочтение отдается фирме, поставляющей стеклопластиковые трубы российского производства. Возможно, никто и не обратил бы внимания на то, что тендер прошел с некоторыми нарушениями "Положения о порядке осуществления закупок товаров, работ и услуг на тендерной основе", если бы решение комиссии не оказалось несколько неожиданным. Дело в том, что выигравшее торги общество с ограниченной ответственностью предоставило предложение, гораздо менее предпочтительное с точки зрения экономии бюджетных средств и качества поставляемого материала, к тому же, помимо ценового фактора, не были приняты в расчет такие важные показатели, как долговечность и экологичность изделий. Поэтому поспешно принятое решение и попало под "огонь" со стороны специалистов в данной отрасли, а также остальных участников тендера, претензии которых были вполне справедливыми.

Реакция устроителей тендера? Новополоцкий горисполком и коммунальное унитарное предприятие ЖКХ Новополоцка проигнорировали предложение пересмотреть решение тендерной комиссии. По данному факту состоялось судебное разбирательство, но окончательное решение суд вынес не сразу —- было назначено два дополнительных слушания. В итоге решение было вынесено в пользу исполкома по той лишь причине, что трубы были уже закуплены (?!).

Разобраться в сложившейся ситуации действительно непросто. Тем более, что и мнения специалистов в данном вопросе расходятся. Главная точка преткновения —- это материал для изготовления труб. Дело в том, что проектная организация данного объекта —- РУП "Институт Бекоммунпроект" —- заложила в проект строительства новых водоотводов трубы из поливинилхлорида (ПВХ). Естественно, что применение выбранных в результате тендера стеклопластиковых труб потребует проведения обязательной экспертизы и корректировки проекта. Однако и решение "Бекоммунпроекта" об использовании при строительстве новых водоотводов в Новополоцке труб из ПВХ, по мнению, например, специалистов технического комитета РУП "Стройтехнорм" Министерства архитектуры и строительства РБ, было вынесено без технико-экономического обоснования. В свою очередь, специалистом водопроводно-канализационного хозяйства Павлом Землянским, имеющим стаж работы в этой отрасли более четырех десятков лет, была изучена проектно-сметная документация по объекту и подано предложение подрядчику (ОАО "Спецмонтажстрой-181") по изменению проектного решения и технологии строительно-монтажных работ. Суть нового проекта сводится к применению в напорных водоотводах очистных сооружений РУП "Полимир" сварных труб из полиэтилена низкого давления (ПНД). По данному предложению были получены положительные отзывы специалистов ГНУ "Институт механики металлополимерных систем НАНБ", Главэкспертизы, "БелНИИП градостроительства", РУП "Стройтехнорм", Витебского облводоканала и горводоканала, а также ряда других организаций. При применении полиэтиленовых труб просчитанный экономический эффект мог бы составить около 1,5 миллиарда рублей, да и с точки зрения экологии они абсолютно безвредны, ввиду чего активно применяются во всем мире, вытесняя доисторические стальные и чугунные трубы.

Однако руководства Новополоцкого горисполкома и КУП ЖКХ Новополоцка придерживаются другого мнения, твердо считая, что применение труб ПНД со временем приведет к уменьшению пропускной способности, потребует полной корректировки проектно-сметной документации, а по причине невозможности проведения контроля качества сварных швов полиэтиленовых труб данный участок трубопровода не будет соответствовать экологической безопасности.

Данная точка зрения поддерживается рядом специалистов УП "Минскинжпроект", РУП "Институт Бекоммунпроект", Минжилкомхоза, которые пытаются "отстаивать честь мундира". В общем, ни одна из сторон уступать не собирается.

Между тем строительно-монтажные работы на объекте "Напорные водоводы от КНС-2 до очистных сооружений РУП ПО "Полимир" уже ведутся и, по мнению некоторых специалистов, с нарушением строительных норм и правил. Что там делается не так, пусть решают компетентные структуры, но обходить стороной данную проблему нельзя. Хотя бы по причине значимости объекта — любой недочет может привести к проблемам экологического характера, так как повлечет за собой сброс неочищенных стоков в реки Ушачу и Западную Двину.

В претензиях к использованию труб из стеклопластика также есть экологическая подоплека — данный вид труб вообще запрещен в западных странах или используется для транспортировки нефти. С точки зрения экологии и влияния на здоровье и жизнедеятельность человека, применение их в системах водоснабжения нежелательно. Не стоит также забывать, что рациональное решение по строительству трубопровода в Новополоцке позволит не только предотвратить возможные неблагоприятные последствия для окружающей среды, но и снизить стоимость основных фондов и, соответственно, себестоимость услуг канализации.

**Василий ВОДНИКОВ.**

СУД

# Асуджаны былыя сілавікі

У Віцебскім абласным судзе завяршыўся незвычайны працэс. На лаве падсудных сядзелі былыя начальнікі Полацкага міжраённага аддзела Камітэта па арганізаванай злачыннасці і карупцыі Сяргей Васеха і яго намеснік Уладзімір Лузгін.

Суд, які праходзіў у закрытым рэжыме, прызнаў былых кіруючых сілавікоў у злоўжыванні ўладай, а Уладзіміра Лузгіна — яшчэ і ў атрыманні хабару.

Крымінальная справа супраць гэтых афіцэраў была ўзбуджана абласным УКДБ у канцы 2002 года і адразу ж выклікала вельмі вострую рэакцыю з боку абласнога начальства абвінавачваемых. Намеснік начальніка Камітэта па арганізаванай злачыннасці і карупцыі Аляксандр Длугаш неадкладна наладзіў прэс-канферэнцыю, дзе заявіў, што яго падначаленыя сталі ахвярамі "злачыннасці і карупцыі на самым высокім узроўні".

— Я лічу, — гаварыў тады А.Длугаш, — што затрыманне нашых калег цалкам звязана з іх прафесійнай дзейнасцю.

Сёлетнім летам, напярэдадні чарговага "Славянскага базару", начальнік абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў Вячаслаў Еўстаф'еў таксама выказаўся перад журналістамі ў падтрымку Васехі і Лузгіна і падсумаваў свае разважанні такімі словамі: "Ёсць суд, каб узважыць усе "за" і "супраць" і вынесці рашэнне".

І вось суд адбыўся, рашэнне вынесена. Былыя кіраўнікі полацкага антыкарупцыйнага падраздзялення Міністэрства ўнутраных спраў прызнаны вінаватымі ва ўсіх без выключэння інкрымінуемых ім злачынствах. Сяргей Васеха прыгавораны да двух, а Уладзімір Лузгін — да трох год пазбаўлення волі ў папраўчай калоніі з пазбаўленнем права займаць пэўныя адказныя пасады на працягу пяці год.

Нагадаем, што акруговая камісія пазбавіла Паўла Севярынца кандыдацкага статусу за тое, што ён у сваім радыёвыступленні асмеліўся заявіць аб звычайнасці карупцыі на розных узроўнях улады ў нашай краіне. Маўляў, кандыдат паклёпнічае на рэчаіснасць, не маючы для гэтага ніякіх падстаў. Ну няма ў нас ні хабарнікаў, ні сквапных на грошы міліцыянтаў, ні службовых асоб, якія злоўжываюць сваім становішчам.

Усё гэта, аказваецца, ёсць.

Толькі Паўлу Севярынцу ад гэтага не лягчэй...

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

НЯВЫДУМАНАЯ ГІСТОРЫЯ

# Расплата

Халодны восеньскі дождж струменьчыкамі-змейкамі сцякаў па твары, змываючы горкія дзіцячыя слёзы. Маленькі Толя моцна трымаўся за матчыну руку і, як мог, стараўся не адставаць ад яе. Цёмная ноч схавала іх ад дэбашыра. Яны беглі па вуліцы роднай вёскі Рымля ў надзеі знайсці прытулак у добрых людзей, а ззаду, там, дзе застаўся іх дом, чуўся грукат і брудная лаянка. Там "гаспадарыў" п'яны бацька Сяргей Заборскі.

Шмат разоў Толя грэўся ля чужога сямейнага ачага. Доўгімі бяссоннымі начамі, выгнаны разам з маці Анютай з дому і слухаючы, як няўцешна яна плача, хлопчык сваім дзіцячым розумам шукаў прычыну ўсяму гэтаму. І ўжо тады, з маленства, ён разумеў, што вінаваты ва ўсім бацька. Ён пастаянна п'янствуе, прапівае ўвесь заробак. А, прыйшоўшы дадому, пачынаў наводзіць "парадкі". Брудная лаянка, пагрозы, пабоі — лепшага ад бацькі Толя і чакаць перастаў. Але, нягледзячы ні на што, ён рос добрым і даверлівым хлопчыкам, рана прызвычаіўся да працы, любіў прыроду, усё жывое. Толькі бывалі ў яго такія мінуты, што крыўда і злосць засланялі вочы. Не мог раўнадушна бачыць мацярынскія слёзы, здзекі п'янага бацькі над сваёй няшчаснай сям'ёй. У такія мінуты ён не ручаўся за сябе. І што казаць: ад пастаянных перажыванняў, слёз і скандалаў у хлопца пачалі здаваць нервы.

Толя вырас. Набыў прафесію вадзіцеля. Працаваў у аўтапарку. У калектыве яго любілі. Хлопец старанны, працавіты, беражліва адносіцца да тэхнікі. І з таварышамі даверлівы, шчыры.

А як прыходзіў з работы, сум і трывога агортвалі сэрца. Дома па-ранейшаму не сціхалі скандалы, сваркі. Бацька не пераставаў піць, не мяняў сваіх звычак.

Пасля службы ў арміі хлопец хацеў падацца ў іншыя мясціны, уладкавацца на працу ў горадзе, каб нічога не чуць і не бачыць, быць далей ад дэбашыра-бацькі. Але як жа маці? Хто ёй дапаможа ў цяжкую мінуту? Яна і так намучылася за ўсё жыццё з мужам п'яніцай. І хлопец застаўся дома.

...У той памятны кастрычніцкі вечар бацька прыгнаў з поля кароў. Як і заўсёды, быў ён нецвярозы. Маці падала яму ежу, а сама, падаіўшы карову, легла адпачыць. Толя назіраў, як бацька паволі боўтае лыжкай у місцы, як неахвотна жуе, і адчуваў, што гэта, калі можна так сказаць, уверцюра да скандалу, што стары яўна шукае прычыну, каб пасварыцца. Гледзячы на спіты бацькаў твар, на рукі, якія маглі б у жыцці зрабіць шмат чаго добрага, калі б не так заўзята цягнуліся да чаркі, хлопца агортвала крыўда за гэтага спустошанага чалавека, за сябе, за маці. Два разы пасылалі яны бацьку на прымусовае лячэнне ад алкагалізму. Але, вянуўшыся, ён вёў сябе па-ранейшаму. Яго свядомасць не кранала нічога...

Думкі Толі перарвала бацькава лаянка. Стары ўстаў з табурэткі, каб ударыць жонку. Але падаспеў Толя і пасадзіў яго на месца. Тады бацька прычапіўся да сына. Ён узяў са стала нож і кінуўся на хлопца. Толя схапіў шчотку, што падмятаць падлогу, і хацеў выбіць нож. Шчотка пераламалася. Тады хлопец спрабаваў выбіць нож нагой, але толькі параніўся. І ў парыве вялікага душэўнага хвалявання, крыўды ён нечакана стукнуў бацьку нагой у жывот. Бацька выпусціў нож, схапіўся рукамі за жывот і паціху асеў на падлогу. Потым, перасільваючы боль, устаў, падышоў да ложка і лёг. Толя, мала памятаючы сябе, выскачыў з хаты.

Усю халодную кастрычніцкую ноч хлопец правёў на гарышчы. Без цёплага адзення, без сну. Ён то асуджаў сябе за тое, што не мог стрымацца і стукнуў бацьку, то апраўдваўся, успамінаючы ўсё сваё няшчаснае дзяцінства, калі зайздросціў аднагодкам, якія спакойна ішлі з вуліцы дадому, ведаючы, што іх там ласкава сустрэнуць, накормяць, пакладуць спаць. Ён ніколі не ведаў, дзе прыйдзецца начаваць, мала калі бачыў сваю маці вясёлай.

Пад раніцу змарыў сон. Быў ён нядоўгім, бо неўзабаве па сене зашамацелі крокі маці.

— Сынок... Бацьку дрэнна. Я "хуткую дапамогу" выклікала...

Ён хацеў пайсці ў хату паглядзець на старога. Але цела скавала нейкая неверагодная слабасць. Было сорамна і прыкра ад таго, што з-за яго пакутуе бацька. Так і не прыйшоў...

Заборскага-старэйшага забралі ў бальніцу. Зрабілі аперацыю. Але жыццё выратаваць не ўдалося...

Так Толя Заборскі стаў забойцам. Забойцам бацькі, чалавека, якому абавязаны сваім з'яўленнем на свет. Але не больш таго. За ўсе свае дваццаць чатыры гады ён ніколі не атрымаў ад бацькі добрай парады, не прачытаў у яго вачах спачування і разумення. Вочы гэтыя былі або пустыя з пахмелля, або напоўненыя лютай злосцю ў час ап'янення.

Ён не мог даравацъ бацьку і пастаяннага здзеку над цярплівай і спакутаванай маці, што большую палову жыцця хавалася па чужых кутках, страціўшы і маленькую надзею пажыць спакойна.

Перад смерцю, размаўляючы са следчым, бацька прасіў не прыцягваць сына да крымінальнай адказнасці. Раскаянне прыйшло. Прыйшло пасля расплаты. Позняе і ўжо нікому не патрэбнае. Але няхай трагедыя гэтай сям'і паслужыць добрым урокам іншым бацькам.

На жаль, нярэдка сустракаюцца такія эгаістычныя, грубыя бацькі, утапіўшыя ў спіртным сваю чалавечую годнасць. Яны не думаюць ні аб дзецях, ні аб сям'і, абы толькі ім было добра. Але нездарма сказана: прырода не цярпіць пустаты. Рана ці позна настане час расплаты, прыйдзе раскаянне. Дык няхай жа яно не будзе такім познім, як у Сяргея Заборскага.

Суд прыгаварыў Толю да выпраўленчых работ па месцы працы з вылічэннем з яго заробку 20 працэнтаў на карысць дзяржавы.

Так ужо атрымалася, што Заборскі-старэйшы і мёртвы мучыць сына. Хлопец яшчэ доўга не зможа жыць спакойна ад думкі, што забіў свайго бацьку. Хоць усім сваім жыццём, учынкамі бацька сам вінаваты ў такой сваёй смерці.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

# Узаконенае беззаконне?



*Калі сярод дзеючых беларускіх палітыкаў кагосьці і можна назваць прафесійным рэвалюцыянерам, дык гэта Валерыя Аляксеевіча Шчукіна. Уся міліцыя, ад участковага інспектара да вышэйшага кіраўніцтва МУС, ведае яго ў твар. Тое ж датычыцца і роднасных МУС сілавых структур. Для улады ён — чалавек-палігон, на якім адпрацоўваюцца розныя формы і метады "пресечения" — фізічнага, юрыдычнага і псіхічнага ціску. На яго наводзілі паклёп, яго збівалі, арыштоўвалі на якой заўгодна падставе і без дай прычыны, пазбаўлялі жытла і праліскі, чынілі судовы пераслед. На ім правяраюць, колькі чалавек можа вытрываць і не зламацца.*

Вось і напярэдадні рэферэндуму яго ў чарговы раз затрымала віцебская міліцыя, у выніку чаго на свободу Валерый Аляксеевіч выйшаў толькі праз дзесяць дзён. Было гэта так. На свае сродкі Шчукін надрукаваў улётку, у якой тлумачыў грамадзянам, чаму трэба казаць "не" гвалту над Канстытуцыяй і галасаваць на выбарах за апанентаў улады. З гэтай улёткай падчас распаўсюджвання яе на вуліцах яго неаднойчы затрымлівалі, прад'яўлялі прэтэнзіі ў тым, што адсутнічаюць выходныя дадзеныя, афіцыйны дазвол на друк і гэтак далей. Шчукін жа тлумачыў кепска падкаваным у юрыдычных пытаннях "вартавым парадку", што на яго, як на прыватную асобу, не распаўсюджваюцца тыя палажэнні, што датычаць палітычных партый і грамадскіх арганізацый, што, як грамадзянін Рэспублікі Беларусь, ён мае права весці прапаганду як "за", так і "супраць". Ягоная ўлётка была б незаконнай, калі б была ананімнай (як некаторыя прапагандысцкія опусы БТ), але пад ёю маецца подпіс "Валерий Щукин". І ўвогуле ўлётка выдадзена "в соответствии с ч.1 и ч.4 ст.45 Избирательного кодекса". Нягледзячы на жалезную аргументацыю, запас прапагандысцкага матэрыялу ў Шчукіна рэгулярна канфіскоўвалі (у юрыдычным сэнсе гэта патыхала рабаваннем). А за дзесяць дзён да рэферэндуму разам з улёткамі забралі і яго самога.

Валерый Аляксеевіч у той дзень звыкла вёў барацьбу з рэжымам і абараняў Канстытуцыю. Ён раздаваў на вуліцы свае ўлёткі. Нарад міліцыі, убачыўшы здалёк знаёмую постаць, наблізіўся і звыкла запатрабаваў дакументы на праверку. Прычым яшчэ да таго, як міліцыянтам трапіў у рукі ягоны пашпарт, яны па мабільніку раіліся з начальствам, што рабіць са Шчукіным, які зноў распаўсюджвае ўлёткі. Звыкла адзначыўшы адсутнасць у пашпарце праліскі, міліцыянты "прапанавалі" праехаць у аддзяленне для грунтоўнай размовы. Валерый Аляксеевіч не стаў супраціўляцца. Але каб не марнаваць час у чаканні міліцэйскай машыны, працягваў распаўсюджваць свой зварот да выбаршчыкаў і ўдзельнікаў рэферэндуму. Міліцыянты паспрабавалі перашкодзіць, схапілі за хворую руку. Шчукін закрычаў ад болю. Вакол сабраўся народ. Такім чынам, намаганнямі міліцыі ўтварылася нешта падобнае на мітынг. Калі прыехала машына, Шчукіна запіхнулі ў яе прымусам, хоць ніякага супраціўлення ён не аказваў.

На падставе міліцэйскага рапарта суд прызначыў Валерыю Аляксеевічу дзесяць сутак зняволення. Што будзе менавіта такі тэрмін, Шчукін не сумняваўся, бо менавіта столькі дзён заставалася да рэферэндуму. Вінавацілі Шчукіна ў тым, чаго ён не рабіў. У непадпарадкаванні законным патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі. Атрымлівалася, што ён адмаўляўся ехаць у аддзяленне, хапаўся за форменнае адзенне міліцыянтаў і наносіў ім іншую шкоду. Сам жа Шчукін тлумачыў, што законныя патрабаванні (праверка дакументаў і ваяж у аддзяленне) ён паслухмяна выканаў, а вось спроба міліцыянтаў перашкодзіць распаўсюджванню ўлётак законнай не была і фактычна ўяўляла сабою правакацыю (прычым агучанага патрабавання спыніць распаўсюджванне ўлётак нават і не было), таму ён меў законнае права супрацьстаяць гвалту. Гэта ў арміі загады не абмяркоўваюцца, якія б яны ні былі, а ў цывільным грамадстве людзі маюць законнае права ігнараваць незаконнае патрабаванне прадстаўніка ўлады. Свой чарговы канфлікт з уладаю Шчукін разглядае менавіта ў такім кантэксце.

Гэтую справу Шчукін так не пакіне, зараз ён рыхтуе скаргу на дзеянні міліцыі і несправядлівы прысуд.

Зняволенне скончылася 17 кастрычніка ў 17.50, і Шчукін адразу накіраваўся на выбарчы ўчастак назіраць, як там ідуць справы. Нельга сказаць, каб выбарчая камісія сустрэла яго з радасцю. "У нас для цябе нават крэсла няма", — сказалі яму. "Нічога. Пастаю. Я высокі — зверху болей пабачу", — адказаў Валерый Аляксеевіч. Пакуль ішло галасаванне, праблем нібыта не ўзнікала, — а вось як пачаўся падлік галасоў, назіральнікаў папрасілі пакінуць памяшканне. Зразумела, Шчукін адмовіўся. Яго паспрабавалі выштурхнуць гвалтам. Але, як гавораць, не на такога натрапілі... Гэтая дзікая сцэна, якая выразна дэманстравала празрыстасць беларускіх выбараў і спалучанага з імі рэферэндуму, адбывалася на вачах амбасадара ФРГ, які таксама быў назіральнікам на гэтым участку. "Калі няма чаго скрываць, тады навошта хаваць?" — гаворыць з гэтай нагоды Валерый Шчукін.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**
**Фота photo.bymedia.net**

# Мой лёс

(Працяг. Пачатак на 3-й стар.)

Наогул жа мне вельмі пашанцавала і з настаўнікамі, і з аднакласнікамі. Але правілы не без выключэнняў. Былі і такія, што так і хацелася паставіць іх у нязручнае становішча. І ў гэтай справе я быў далёка не апошнім. Колькі ні папярэджвала маці, каб не рабіў нічога падобнага, — не ўдавалася. Не мог утрымацца, каб не дасаліць таму, чые тлумачэнні здаваліся мне нуднымі, а патрабаванні — фармальнымі.

Наша выкладчыца хіміі, як мы яе звалі — хімічка, найчасцей прыходзіла на заняткі з ордэнам, атрыманым **"за заслугі ў камуністычным выхаванні падрастаючага пакалення"**, была крыклівай, як гандляркі на Камароўцы, а новы матэрыял даводзіла даволі-такі фармальна, дэкламуючы па памяці слова ў слова радкі з падручніка.

— Запомніце, дзеці: бяспечную рудніковую лямпу вынайшаў англічанін Гэмфры Дэві.

Уздымаю руку, спыняецца: чаго табе?

— Прабачце, Ганна Натанаўна, а я вось чытаў днямі ў часопісе "Знание — сила", што гэтую лямпу ўпершыню прыдумаў наш суайчыннік ўральскі шахцёр Іван Пад'ялдыкін...

Нямая сцэна. Твар хімічкі зрабіўся белым, як палатно. І не дзіва. Якраз тады разгарнулася бязлітасная барацьба супраць "касмапалітаў бязродных" ды "нізкапаклонства перад Захадам". І ў расійскай гісторыі сталі старанна адшукваць імёны тых, хто абавязкова раней за славутых іншаземцаў зрабіў тую ці іншую вынаходку... Маўляў, паравоз прыдумаў не Стэфенсан, а браты Чарапанавы, радыё — Папоў, а не Марконі, і гэтак далей...

Выкладчыца хіміі падумала, што й таго Дэві ўжо зрынулі з п'едэстала.

— Добра, Стась, — кажа яна,— дзякую, не выключана, што ты маеш рацыю. Я прагледжу найноўшыя даведнікі. А пакуль што, дзеці, давайце называць гэтую лямпу проста — "рудніковая".

Потым, праз шмат гадоў, стане трохі сорамна ад успаміну пра той жарт. Выкладчыца сама, калі ўдумацца, была прыціснутая штодзённым страхам. Бо, сказаўшы на ўроку нешта "не тое", "ідэалагічна шкоднае", яна, нягледзячы на свой ордэн, магла як двойчы два трапіць туды, адкуль мала хто вяртаўся...

Сёння, натуральна, да такіх жахаў не даходзіць. Але настаўнікаў зноў прымушаюць **гнуць** афіцыйную ідэалагічную лінію, **адказваць** за так званае патрыятычнае выхаванне вучняў. Толькі вось патрыятызм трактуецца ў адной плашчыні — як лаяльнасць рэжыму ды асабіста правадыру... А гэта мы таксама ўжо праходзілі, і што з гэтага сталася, добра ведаем.

Зрэшты, я пакрывіў бы душой, каб сказаў, што пра школьныя гады захаваў пераважна змрочныя ўспаміны. Наадварот. А што да настаўнікаў, то пераважная большасць з іх былі людзі сумленныя, высокаадукаваныя і нават мудрыя, бо ўмелі ў нялюдскіх умовах навучаць не толькі той навуцы, якую выкладалі, але і чалавечнасці, дабрыні і ўзаемапавазе.

Вучоба ў школе давалася мне даволі-такі лёгка, а калі здараліся цяжкасці, то я старанна ўтойваў ад сяброў, як доўга карпеў употай над падручнікамі і кнігамі, каб назаўтра з нядбайнасцю растлумачыць іншым, як гэта проста. Большасць настаўнікаў лічыла мяне дасведчаным чалавекам, а цудоўны выкладчык фізікі, чалавек з рэдкім імем — Фініас Саламонавіч — неяк заўважыў, што на пастаўленае ім пытанне я адказаў з энцыклапедычнай дакладнасцю. Аднакласнікі рэагавалі на гэта па-свойму: мы і не ведалі, што і ты, Шушкевіч, яўрэй, бо інакш бы Фіня ніколі не сказаў, што ў цябе не галава, а сінагога?

Што да энцыклапедыі, то менавіта яна была маім першым падручнікам. Падчас фашысцоўскай акупацыі я штудзіраваў тыя кнігі, што засталіся ад бацькавай бібліятэкі і чаго не забралі энкавэдысты падчас вобыску пры яго арышце ў 1936-м. Больш за ўсё прыйшліся мне даспадобы дзесяць тамоў "Малой Савецкай Энцыклапедыі". Мог гадзінамі чытаць усё запар, пачынаючы з любой старонкі, і часам нават матулю ставіў у тупік экзатычнымі маладзвядомымі тэрмінамі.

Гэта энцыклапедыя і іншыя кнігі, прачытаныя падчас вайны, далі мне адчувальную фору, і маці запісала мяне ў чацвёрты клас, сказаўшы:

— Да якога адсадзяць, у тым і вучыцца будзеш.

Не адсадзілі, а пахвальную грамату за той самы чацвёрты атрымаў і ўсё жыццё буду помніць маю цудоўную першую настаўніцу Таццяну Канстанцінаўну Мальцаву. Толькі праз шмат гадоў я даведаўся, што яе муж і муж маёй наступнай любімай класнай кіраўніцы — выкладчыцы гісторыі Станіславы Міхайлаўны Петрушкевіч — загінулі ў сталінскіх засценках.

Савецкая педагогіка спавядала тады прынцып асобнага навучання хлапчукоў і дзяўчат. У маёй 13-й сярэдняй мужчынскай школе рэй у класе вялі, па сённяшняй тэрміналогіі, крутыя хлопцы. Я быў самы малодшы і ў класе, і ў студэнцкай групе універсітэта, бо з-за вайны многія селі за парты з вялікім спазненнем. Хто-ніхто паспеў і ў партызанах пабыць, раней за асадку патрымаў у руках вінтоўку. Мой аднакласнік Валодзя Рубежын, напрыклад, выводзіў у лес яўрэйскія сем'і з мінскага гета...

Старэйшыя хлопцы нядбайна распавядалі пра партызанскія будні, смалячы пры гэтым самакруткі, і звысоку пазіралі на такую малечу, як я. Мне хацелася самазацвердзіцца і я шукаў спосаб, як гэта зрабіць. Неўзабаве завяваў пэўнае лідэрства ў вучобе і не адмаўляў бамбізам, многім з якіх навука давалася туга, спісаць задачку ці практыкаванне.

Але лёгкасць утойвала і небяспеку. Вучоба ў нейкі час здалася мне занадта сумнай і пайшла наперакасяк, а з ёю і паводзіны. Памятаю, наша кампанія сцягнула вогнетушыцель ды вырашыла пагуляць у "партызанскую засаду". Стаіліся на паддаху нейкай двухпавярховай будыніны ды сталі падпільноўваць якога-небудзь выпадковага мінака. Добра, што неўзабаве так ніхто і не з'явіўся. А паколькі карцела хутчэй пусціць той чырвоны балон у справу, дык мы наладзілі "святочны салют".

На шчасце, выпадак прымусіў узяцца за розум.

З чацвёртага класа я рабіў допісы ў газету "Пионер Белоруссии", якая пасля стала называцца "Зорька". Прыемна было, калі разгортваеш нумар, а там пад нататкай подпіс — **"Деткор Стасик ШУШКЕВИЧ".** Праўда з-за гэтага я меў і непрыемнасці. Рэдакцыя звычайна правіла мае нататкі, каб усё выглядала больш прывабным, а сябры былі ўпэўнены, што гэта я так упрыгожваю нашу рэчаіснасць і называлі мяне "наш детбрех".

І вось у пятым класе, калі мае адзнакі сталі зусім дрэннымі, запрашае мяне рэдактарка "Зорькі" і паведамляе: хочам узнагародзіць цябе пуцёўкай у "Артэк".

— Спадзяюся, што з паводзінамі і паспяховасцю ў цябе па-ранейшаму?

— Па-ранейшаму, — адказваю.

Бо, самі разумееце: калі б у рэдакцыі даведаліся хоць пра частку маіх тагачасных "подзвігаў", дык не бачыць бы мне "Артэка" як уласных вушэй. Пакрывіў я тады душою.

Два месяцы ў "Артэку" і дарога туды і назад былі сапраўднай казкай. Першы раз ехаў па сапраўднай чыгунцы. Першы раз убачыў Маскву — Крэмль, Чырвоную плошчу, метро імя таварыша Лазара Кагановіча... І нарэшце — мора!

Але больш за паўднёвую экзотыку сапраўдным цудам было тое, што ў сталоўцы без усялякіх абмежаванняў быў хлеб. Духмяныя лусты ляжалі ў хлебніцах на кожным стале: еш колькі хочаш.

А дома ў тыя часы маці наразала атрыманы па картках кавалак на лустачкі для бабулі, мяне з сястрой Ірынай і сябе. І хаця нашы з сястрой лустачкі былі куды больш тоўстыя, чым матчына, нам здавалася, што і яны прасвечваюцца наскрозь. Хлебныя карткі адмянілі толькі праз год...

Адным словам, калі згадваў там, на моры, пра дом, пра маці, дык зноў адчуваў сорам: колькі нерваў каштавалі ёй мае свавольствы ды кепскія адзнакі! І вось цяпер я тут ем ад пуза, а яны там кожную скібку лічаць.

Карацей, тыя два месяцы ў "Артэку" прымусілі мяне многае зразумець і стаць больш сур'ёзным. Вядома, ператварыцца ў зусім ужо ўзорнага савецкага піянера, як і любому нармальнаму хлапчуку, мне было не пад сілу. Такія былі толькі на плакатах. Але праблем з вучобай з таго часу ў мяне ўжо не ўзнікала. Маці, праўда, была перакананая, што я магу займацца толькі на выдатна, але ніколі не папракала мяне за чацвёркі. Як вопытны педагог, усведамляючы мае імкненні, яна дзейнічала інакш.

— Вось Гарык (мой сусед — сціплы таленавіты аднакласнік) дасягне большага, чым ты, бо болей працуе. Ён і медаль атрымае.

Я адчуваў матчын падтэкст, які проста знішчаў маё самалюбства: Гарык больш здольны, больш таленавіты, больш працавіты... І прыходзілася са скуры лезці, каб даказаць роднай маці, што і я не абібок і не ва ўсім горшы за Гарыка.

Наогул, маці вельмі любіла настаўніцкую працу. Яна беспамылкова выяўляла ў вучняў імкненне займацца той ці іншай дзейнасцю, калі хочаце, заўважала здольнасць, талент, і спрыяла таму, каб вучань пайшоў той дарогай, на якой большая імавернасць мець поспехі.

Што да мяне, то і тут мацярынская педагогіка дала плён. Медаль я атрымаў і разам з маці быў перакананы, што медаль адчыняе мне дарогу ў жадаемую вышэйшую навучальную ўстанову.

Але мы памыляліся...

Зрэшты, гэта ўжо іншая гісторыя.

*(Працяг будзе.)*



*Бабуля Станіслава Станіслававіча — Францішка Раманоўская (Камэйша).*



*Маці Станіслава Станіслававіча — Гэля Раманоўская (30-я гады XX стагоддзя).*

**Фота з сямейнага архіва.**

СВЕТСКАЯ ЖИЗНЬ

## Фондю от Мазаева

*Российская группа "Моральный кодекс" прибыла в Минск инкогнито с единственным концертом и уникальным рецептом фондю от Сергея Мазаева.*

Единственный концерт самых стильных российских исполнителей, как по праву называют команду Сергея Мазаева, состоялся в минском клубе-ресторане "Гудвин". Помимо своих популярных композиций группа "Моральный кодекс" привезла с собой и удивительный рецепт фондю, который претендует стать одним из хитов для гурманов клуба.

*"В "Гудвине" собираться за фондю уже стало доброй традицией,* -- говорит Мазаев. — *Здесь гостей встречают именно сытными и уникальными рецептами. Фондю — блюдо для всей компании, объединяет и способствует теплому общению".*

Пища, которая готовится прямо за столом на огне, всегда завораживает. В японской и китайской кухнях такая традиция очень популярна, а в Европе, пожалуй, лишь отдельные страны уже осознали всю прелесть "настольного" огня.

Если вы собрались с друзьями отметить какое-либо событие, хотите удивить своего друга или подругу, сделать успешной деловую встречу, закажите фондю. Тогда ваша встреча обречена на успех. Ибо фондю позволяет не делать культа из еды, сытно поесть и не потратить много денег. Фондю настраивает на положительные эмоции и теплую беседу вокруг стола. Кроме того, фондю освобождает от необходимости заказывать несколько блюд: вы сами готовите себе за столом!

*Fondre* — по-французски "растапливать". Это национальное блюдо швейцарцев. Кастрюля на огне, в которой булькает жидкая масса: шоколад (шоколадное фондю), сыр (сырное фондю), масло (бургундское или мясное фондю, фондю Лодивода) или бульон (китайское фондю). Макать в эту жидкую кипящую массу можно буквально любые продукты: кусочки хлеба, овощи и фрукты, сырое или готовое мясо, рыбу, морепродукты. Можно дать волю своей фантазии и насладиться удивительным вкусом. Главное, что времени для этого у вас будет достаточно: благодаря постоянному притоку тепла от спиртовки фондю будет горячим ровно столько, сколько вы захотите...

**Виолетта ШИКИНА.**

## Сяргей Міхалок дэманаў не разумее

*Лідэр гурта "Ляпіс Трубяцкой" Сяргей Міхалок узяў удзел у запісе новых альбомаў двух дастаткова "цяжкіх" рок-гуртоў.*

Як паведамляе афіцыйны сайт групы "Ляпіс Трубяцкой", для пачатку музыкант запісаўся з гомельскім гуртом "ТТ-34", які грае трэшкор. Затым падчас гастроляў у Ніжнім Ноўгарадзе — з мясцовым ска-панк-кор-калектывам "Элізіум". "Я люблю гучную музыку, але пры гэтым мне вельмі не падабаецца пафас, агрэсія і дэпрэсія, — тлумачыць лідэр "Ляпісаў". — 90 працэнтаў прадстаўнікоў гэтай музыкі — сапраўдныя дэманы, якіх я па-чалавечы не вельмі разумею. Мне падабаюцца толькі інструментальныя пасажы, а з іх жыццёвай пазіцыяй я не згодны. А вось гэтыя гурты — зусім іншыя, яны пазітыўныя".

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**



НАПЯРЭДАДНІ

## Прыйдзем у Курапаты!

*Штогод, пачынаючы з памятнай восені 1988-га, ладзіцца гэты шлях на Курапаты. У дні, калі ў народзе, згодна з высакароднай спрадвечнай традыцыяй, ушаноўваецца памяць продкаў, мы прыходзім у вядомае зараз усяму свету ўрочышча за кальцавой дарогай Мінска, каб пакланіцца дарагім землякам — бязвінным ахвярам масавых сталінскіх рэпрэсій. Тут, пад соснамі, ляжаць нашы дзяды і прадзеды — тысячы і тысячы пакутнікаў Беларусі, бязлітасна расстраляных катамі-энкавэдыстамі.*

Зараз у Курапатах высілкамі бескарыслівых, самаадданых патрыётаў і перш за ўсё сяброў і прыхільнікаў Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ, а таксама звычайных, далёкіх ад палітыкі, але сумленных і неравнадушных людзей паўстае народны мемарыял. Над магіламі закатаваных усталяваны ўжо сотні крыжоў. Урочышча ачышчаецца ад хмызняку і дзікунскіх слядоў вандалаў — духоўных паследкаў былых расстрэльшчыкаў. Яны кашчунна ламаюць крыжы, вырываюць кветкі, смецяць. Але гэтая мясціна стала святой не толькі для беларусаў, а і для ўсіх, хто спавядае ідэалы свабоды і дэмакратыі, не прымае гвалт і насілле, зычыць нашай краіне дабра і працвітання ў сям'і цывілізаваных краін свету.

Сюды прыходзяць паасобку і сем'ямі памаўчаць у роздуме аб былым, сённяшнім і будучым Радзімы, схіліцца перад мужнасцю нескароных патрыётаў, папрацаваць на талацэ разам з грамадой валанцёраў. Сюды прыязджаюць паломнікі з розных куткоў краіны, сябры з-за мяжы.

Вось і ў гэтую нядзелю, напярэдадні Дзядоў — Дня памінання продкаў — 31 кастрычніка, адбудзецца ўшанаванне святых магіл. Грамадзянская акцыя, **дазволеная Мінскім гарвыканкамам,** пачнецца зборам удзельнікаў у 10.30 ля сквера на бульвары Талбухіна паблізу гадзіннікавага завода (станцыя метро "Парк Чэлюскінцаў"). А 11-й гадзіне — пачатак жалобнага шэсця, якое пройдзе па тратуарах пр.Скарыны, вуліц Каліноўскага, Сядых, Карбышава, Гамарніка, Мірашнічэнкі да кальцавой дарогі.

Дарагія людзі, мінчане і жыхары розных мясцін Беларусі! Калі вы любіце сваю Бацькаўшчыну і сваю сям'ю, даражыце памяццю продкаў, жадаеце, каб вашы дзеці, унукі і праўнукі ніколі не зведалі новых Курапат, просім: адкладзіце 31 кастрычніка свае хатнія справы і іншыя клопаты. Прыходзьце на курапацкае шэсце! Нясіце з сабой крыжы і свечкі, кветкі і ахвяраванні на ўзвядзенне Народнага мемарыяла. Уздымайце наш святы бел-чырвона-белы сцяг — сцяг Хрыста!

Сцвердзім разам: мы — людзі з чалавечай годнасцю, з сыноўскай адданасцю Айчыне і шчырай прагай бачыць яе прыгожай, мірнай і вольнай.

**Алесь ЧАХОЛЬСКІ,**
**адказны сакратар Управы Сойма Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ.**

# Крыжаванка



1.Літаратурны работнік газет, радыё, тэлебачання. 2.Вецер вялікай разбуральнай сілы. 3.Аўтар вершаваных твораў. 4.Устойлівасць, устойлівае становішча. 5.Роздум, поўны сумненняў і хістанняў, схільнасць аналізаваць свае перажыванні. 6.Парусінавая стрэшка на судне, верандзе. 7.Вертыкальная шахта невялікай глыбіні. 8.Пісьменнік, які піша творы на грамадска-палітычныя тэмы. 9.Канічны вапнавы нарост на столі пячоры. 10.Старая руская мера аб'ёму вадкасці, роўная 1,23 літра. 11.Пакладзеныя адзін на адзін якія-небудзь прадметы. 12.Канічны вапнавы нарост на дне пячоры. 13.Агульная думка, якая склалася аб кім-небудзь. 14.Разумная падстава, карысць. 15.У спорце: падманны рух, фальшывы выпад. 16.Прытворства з мэтай звесці ў зман. 17.Мэбля для сядзення. 18.Прыстасаванне для плавання. 19.Прэснаводная рыба сямейства карпавых. 20.Жаночыя ўпрыгажэнні з некаштоўных камянёў і металаў. 21.Невялікая палявая птушка. 22.Астатак дрэва, які тырчыць з зямлі. 23.Расліна з пахучымі кветкамі і са сцяблом, пакрытым шыпамі. 24.Палявая птушка сярэдняй велічыні. 25.Птушка падатрада стрыжоў, пашыраная ў Паўднёва-Усходняй Азіі, гнёзды якой у кітайцаў ужываюцца ў ежу. 26.Чорны налёт ад няпоўнага згарання паліва. 27.Пачуццё меры ў паводзінах, далікатнасць. 28.Народны трохструнны музычны інструмент. 29.Драпежная птушка сямейства сокаліных з глінявана-рыжаватым апярэннем. 30.Адчуванне і разуменне прыгожага. 31.Даўнейшы народны беларускі струнны смычковы інструмент. 32.Гульня ў адказы на пытанні з розных галін ведаў. 33.Забарона, адмена. 34.Мера аб'ёму і ёмістасці. 35.Завостраны стальны шпень. 36.Царкоўны хор. 37.Адзінка аптэкарскай вагі або вагі каштоўных камянёў, роўная 62,2 мг. 38.Поўная няўдача, правал. 39.Ядомая частка арэха. 40.Біяэнергетычная абалонка жывых істот. 41.Бог кахання ў старажытнагрэчаскай міфалогіі. 42.Гераічныя народныя паданні. 43.Частка адзення дыякана ў выглядзе перавязі, расшытай крыжамі. 44.Моцны крык з плачам. 45.Шчыпковы музычны інструмент. 46.Від ажурнай вышыўкі. 47.Водгук. 48.Няшчасце, зло, бяда.

**Склаў Анатоль ЦУРЫКАЎ.**

## Адказы на крыжаванку, апублікаваную ў №199

1.Балазе. 2.Загана. 3.Шкрабанне. 4.Клак. 5.Абадранка. 6.Атынкоўка. 7."Ніка". 8.Бадыль. 9.Атрута. 10.Галас. 11.Варта. 12.Павадырка (па гарызанталі). 12.Пано (па вертыкалі). 13.Арфа. 14.Кавалак. 15.Артыкул. 16.Крэкт. 17.Пералом. 18.Рамесніца. 19.Літаванне. 20.Марс. 21.Кальмар (па гарызанталі). 21.Кара (па вертыкалі). 22.Ландкарта. 23.Мыцельнік. 24.Абноўка. 25.Аматар. 26.Раніца. 27.Слабада. 28.Лом. 29.Бра. 30.Док. 31.Косава. 32.Шкаляр. 33.Імшанка (па гарызанталі). 33.Ікра (па вертыкалі). 34.Шанаванне. 35.Начотчыца. 36.Абат. 37.Вішняк. 38."Барыня". 39.Ранічка. 40.Шпалера. 41.Парнас. 42.Ляндар. 43.Ратнік. 44.Трапкач. 45.Роспач. 46.Плеўка. 47.Абадок. 48.Світа. 49.Граната. 50.Аскепак. 51.Унцыя. 52.Ціp. 53.Чаравік. 54.Ніц. 55.Банкнот. 56.Верас.



29

кастрычнік

**ПЯТНІЦА**
Усх. 8.05 Зах. 16.42
Даўж. дня 9.37
Поўня 28 кастрычніка

## Я.Паплаўская і А.Ціхановіч запрашаюць на канцэрты

Прадзюсерскі цэнтр заслужаных артыстаў Беларусі Ядвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча пачынае правядзенне серыі канцэртаў з удзелам зорак беларускай эстрады, а таксама лаўрэатаў і ўдзельнікаў рэспубліканскага тэлевізійнага конкурсу песні "Хіт-момант".

Як паведамілі ў прадзюсерскім цэнтры, гастрольны тур лаўрэатаў конкурсу "Хіт-момант", які з поспехам прайшоў гэтым летам у гарадах Мінскай вобласці, паказаў, што гледачы любяць беларускіх выканаўцаў і з задавальненнем ходзяць на іх выступленні. Таму арганізацыя цяперашняй серыі канцэртаў з'яўляецца натуральным працягам тэлепраекта "Хіт-момант".

Кожны месяц на адной з канцэртных пляцовак краіны будзе паказана новая праграма, у якую ўвойдуць папулярныя песні маладых і ўжо прызнаных артыстаў.

Першы такі канцэрт адбудзецца сёння, 29 кастрычніка, у ДК Трактарнага завода ў Мінску. У ім возьмуць удзел група "Тяни-Толкай", Вольга Плотнікава, Анастасія Ціхановіч, Улада, Андрэй Хлястоў, Аляксандр Папоў, а таксама студыя бальнага танца "Мара" і студыя эстраднага танца "Серпанцін". Гледачы будуць мець магчымасць адкрыта галасаваць за выканаўцаў непасрэдна на канцэрце.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Пятница, 29 октября

### БТ

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 14.00, 15.00, 17.00, 18.00, 23.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!".
**07.30, 08.30, 19.10** "В мире моторов".
**09.05 "Возвращение Мухтара".** Сериал.
**10.05** "Сфера интересов". Экономическая программа.
**10.30 "Живые камни".** Сериал.
**11.05, 18.15 "Богатые и знаменитые"** Сериал.
**12.10 "Дикий табун".** Боевик.
**13.30** "Поет "Купалинка". Музыкальный фильм.
**14.05** "Время кино".
**14.45** Видеофильм АТН.
**15.15** Мультфильмы.
**16.00** "5х5".
**17.05** "Мир дому твоему".
**19.15 "Франка".** Мелодрама.
**21.00** "Панорама".
**21.50** "Зона Икс".
**22.00 "Победитель".** Мелодрама.

### ОНТ

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 23.45** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05 "Клон".** Сериал.
**10.45** "Дисней-клуб".
**15.10** "Угадай мелодию".
**15.35 "Женщины в любви".** Сериал.
**16.30** "Фабрика звезд".
**16.55** "Пять вечеров".
**18.15** "Без срока давности".
**18.45** "Поле чудес".
**20.00** "Время".
**21.05, 00.00** "Народный артист".
**22.15** "Что? Где? Когда?"

### РОССИЯ

**07.45 "Каменская-3".** Сериал.
**08.45, 16.40 "Ундина. На гребне волны".** Сериал.
**09.45, 18.45** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести".
**10.30, 19.30** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50** "Мусульмане".
**11.00** "Вся Россия".
**11.15** "Городок". Дайджест.
**11.45** "Самостийна Украина". Док.фильм.
**16.10 "Кулагин и партнеры".** Сериал.
**17.40** "Аншлаг".
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!".
**19.55** "Кривое зеркало".
**22.40 "Апрель".** Триллер.

### ЛАД

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.45** Новости.
**08.10** "Росчерк времени".
**08.20** "Культурная революция".
**09.15** ("Культура") "Атланты. В поисках истины".
**09.45, 17.35 "Владыка морей".** Сериал.
**10.40** "Женсовет".
**10.50, 18.35 "Тростинка на ветру".** Сериал.
**12.00** "Обычный необычный день".
**12.45 "Горы дымят".** Мелодрама.
**14.10** "Мультиклуб".
**15.05** "Не зевай!".
**15.15** Мультфильм.
**15.25 "Голубой карбункул".** Детектив.
**16.35** "Ретро".
**19.45** "Дела семейные".
**20.30** "Колыбельная".
**21.00** ("Культура") "Линия жизни".
**21.55** ("Культура") "Кто в доме хозяин".
**22.20** Футбол. Чемпионат Италии. Видеообзор тура.

### НТВ

**09.00, 15.00, 18.00** "Сегодня".
**09.15, 16.25** "Криминальная Россия".
**09.50** "Квартирный вопрос".
**10.50 "Слепой".** Сериал.
**15.20** "Принцип домино".
**17.35** "Чрезвычайное происшествие".
**18.40 "Морская пехота".** Боевик.
**21.00** "Страна и мир".
**21.40** "8 1/2 Евгения Примакова". Фильм из цикла "Новейшая история".
**22.35 "Выход один".** Драма.

### СТВ+RenTV

**06.30, 17.50** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.45** "Утро столицы".
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.50** "24 часа".
**07.50, 23.15** "Технология".
**08.10, 18.15** "Минск и минчане".
**08.25, 20.20** "Автопанорама".
**08.45** "Тема дня".
**09.00, 13.00, 16.05** Мультфильмы.
**09.30 "Опасные герои".** Боевик.
**11.10** "Пока горит свеча".
**11.40** "Ступени познания".
**12.00** "Час суда".
**13.10** "Пикник с...".
**13.50 "Наваждение".** Сериал.
**14.50 "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры. Потерянная галактика".** Сериал.
**15.15** "Рыцари-забияки". Мультсериал.
**15.40** "Кот по имени Ик". Мультсериал.
**16.50** "Турпоход".
**17.00 "Дружная семейка".** Сериал.
**18.00** "Светская хроника".
**18.30 "Золушка в сапогах".** Комедия.
**20.05** "СТВ-спорт".
**20.40** "Добрый вечер, малыш".
**20.55 "Дракула, мертвый и довольный".** Комедия.
**23.30** "Реактивный бокс".
**23.55 "Армейский пирог".** Комедия.
**01.35** "Новости СНГ".

### 8-Й КАНАЛ

**07.00 "Операция "Трест".** Сериал.
**08.20, 17.50** "Телемагазин".
**08.30 "Король-олень".** Сказка.
**09.40, 19.50 "Бригада".** Сериал.
**10.30 "Палметто".** Триллер.
**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**16.45** "Музыкальная программа".
**18.00 "Каспер".** Комедия.
**19.40** "Мобилизация".
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют...
**21.10 "Маска Зорро".** Приключенческий фильм.

### ТВ ЦЕНТР

**04.45, 06.30** "Настроение".
**07.35** "Газетный дождь".
**07.45 "Код "Омега".** Боевик.
**09.35** "Европейские ворота России".
**09.45, 17.40** "Телемагазин".
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** "События. Время московское".
**10.15** "Дата".
**11.10** "А у нас во дворе...".
**11.50** "Денежный вопрос".
**12.05, 23.00** "Петровка,38".
**12.25** "Деловая Москва".
**13.15 "Криминальный кроссворд".** Сериал.
**14.30 "Неприрученная Амазонка".** Сериал.
**15.00** "Регионы: прямая речь".
**15.30** "Без репетиций".
**16.00 "Уголовная полиция".** Сериал.
**17.15** "Приглашает Борис Ноткин".
**18.00 "Таковы эти женщины".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**18.55 "Возвращение "Святого Луки".** Детектив.
**21.40** "Народ хочет знать".
**22.30** "Времечко".
**23.20** "25-й час. События. Время московское".
**23.45 "Сердце ангела".** Триллер.
**01.40** "Мода non-stop".

### EUROSPORT

**09.30, 12.00, 23.30** Ралли. Этап чемпионата мира в Каталонии.
**10.00** Экстремальный спорт. Экстремальные игры-2004.
**11.00** Фристайл мотокросс.
**12.30, 13.30** Футбол. Лига чемпионов УЕФА.
**15.00** Теннис. Турнир WTA в Австрии.
**18.00, 19.00** Теннис. Турнир ATP в Швейцарии.
**20.30** Мультиспорт. "Всякая всячина".
**21.00, 01.45** Футбол. 24 лучших клуба Европы.
**21.30, 22.30** Самый сильный человек. Чемпионат в Польше.
**00.00, 02.15** Новости "Евроспорта".
**00.15** Экстремальный спорт. "Молодежная зона".
**00.45** Экстремальный LG Активный спорт.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай.
Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка ААТ «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк 28.10.2004 у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 28 220 экз. Заказ № 763.